# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkaŭščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkaŭščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 44 (528) — Нядзеля, 6-га лістапада 1960 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


# Грунвальдзкая бітва ў савецкай інтэрпрэтацыі

«Янка сеяў, людзі жалі, а зязюля кукавала», — гаварыў Янка Купала, навязваючы да каляніяльнай палітыкі расейскіх бальшавікоў. Яно так выглядае з савецкай інтэрпрэтацыі Грунвальдзкай бітвы, дзе чужы высілак Масква хоча загрэбсьці сабе, каб потым з гэтага капіталу збудаваць фундамэнт пад сваю славянафільскую канцэпцыю, праўдзівей — абгрунтаваць сучасны стан панаваньня Масквы над славянскім сьветам. «Грунвальд, — гавораць словамі Хрушчова ў сваім артыкуле «Да 550-годзьдзя Грунвальдзкай бітвы» («Вопросы истории», нумар 7 за 1960 год) Г. Караеў і В. Каралюк, — назаўсёды застанецца ў памяці народаў, як прыклад ня толькі адважнага супраціву чужаземным захопнікам, але й таго, што шлях да перамогі над захопнікам — у вадзінстве народаў, якім ён пагражае».

Адным словам, як сьцьвярджаюць названыя аўтары, Грунвальдзкая бітва ня толькі была супольным высілкам Палякаў, Беларусаў, Украінцаў. **Расейцаў,** Чэхаў і Летувісаў, але перамога пад Грунвальдам была падрыхтаваная супольнай плыняй у гісторыі ўсіх славянаў. Яна толькі зьявілася адным колцам у супольным змаганьні славянаў супраць наезьнікаў, у іхным змаганьні за сваё «я», якое пасьлей ачоліла Масква й расейскі народ. Бітва на Чудзкім возеры (1242), Кулікавае поле ці бітва з Мамаем (1380), Грунвальдзкая бітва (1410), вызваленьне Маскоўшчыны з-пад татарскага ярма (1480), а там вайна 1812 і апошнія дзьве сусьветныя войны быццам адзін заканамерны ланцуг. У гэтых схватках сьцяг вызваленьня заўсёды несла Масква й расейскі народ.

Удзел Маскоўшчыны ў Грунвальдзкай бітве расейскімі савецкімі гісторыкамі вызначаецца ў першую чаргу тым, што яна змагла забясьпечыць Польшчы й Вялікаму Княству Літоўскаму моцны тыл. Гэты тыл яна быццам забясьпечыла ня толькі бітвай з Мамаем на Кулікавым полі, але й сваей рэальнай сілай. «Толькі маючы ў тылу моцную Маскву, — заўважаюць аўтары, — Літва й Польшча змаглі ў 1410 годзе кінуць супраць Ордэну ўсе свае сілы».

Зьбіваючы выснаў, нечага сказаць! Тым больш, што аўтары сьцьвярджаюць таксама, што наагул польска-літоўскае войска, прыняўшае ўдзел у Грунвальдзкай бітве, налічвала толькі... нямнога больш за 40 тысячаў. Што гэтая армія была адборная, дык гэта праўда, але-ж яна далёка была ад тае вайсковае сілы, якую маглі выставіць і Польшча, і Вялікае Княства Літоўскае. З другога боку, вельмі няпраўдападобным зьяўляецца гэтае дапушчэньне, што «сіла» Маскоўшчыны наважыла Польшчу й Вялікае Княства Літоўскае выступіць супраць Крыжацкага Ордэну. Прынамся, гэтую думку адкідае пазьней ход падзеяў, калі Масква, пачуўшыся на сіле з дапушчэньня Казіміра, з 1480 году пачала з году ў год штурмаваць Вялікае Княства Літоўскае, гэтага свайго «любага» суседа.

Але, як зазначаюць Караеў і Каралюк, расейскі народ прыняў і актыўны ўдзел у Грунвальдзкай бітве ды навет наважыў ейны выйгрыш. Гэта ўдзел у васобе «героических русских смоленских полков». Якое-ж замілаваньне аўтараў да гэтых «русских воинов» і іх «героизму»! Схавайся Вітаўт з усёй сваей арміяй, якая, із слоў аўтараў, толькі й уцякала з поля бітвы. Адным словам гэтыя смаленскія палкі й іхны гэраізм, праскланяныя на ўсе лады — што-ж «русские».

Славу трох смаленскіх палкоў, прыняўшых удзел у Грунвальдзкай біцьве, ня можна адняць ні спляміць. Аднак ці гэта слава «русских воинов»?!

Напомнім маленькі эпізод. Калі ў 1514 годзе маскоўскае войска заняло Смаленск з дапамогай інтрыгаў перабежчыка князя Міхала Глінскага (прэтэндэнта на вялікакняжы пасад ВЛК), дык Масква, ня шмат давяраючы смальнянам, вывезла ўсё смаленскае баярства й уплывовых людзей у глыб Маскоўшчыны, наваднíўшы Смаленшчыну маскоўскімі перасяленцамі.

Летам 1500 году Масква, пасьля 6 гадоў перадышкі, зноў атакавала Вялікае Княства Літоўскае, увайшоўшы ў Смаленшчыну. Войска ВЛК фармавалася ў Менску пад камандаваньнем вялікага князя Аляксандры. Наперад быў аднак высланы невялікі аддзел у 3500 чалавек кавалерыі пад камандаваньнем князя Канстантына Астрожскага. Па дарозе да апошняга далучыўся аддзел смалнян на чале з смаленскім ваяводам Станіславам Кішкай у колькасьці 500 коньнікаў і нямнога пяхоты. Гэты невялікі аддзел, не чакаючы на галоўную армію, 14 ліпеня раптам заатакаваў галоўныя сілы маскоўскае арміі, якая раськінулася абозам каля рэчкі Ведроша блізу Дарагабужа. Хронікар Стрыйкоўскі налічваў маскоўскага войска ў 40 тысячаў коньніцы й шмат пяхоты. Дапусьцім, што гэтага войска было каля 20 тысячаў. Адважныя Ліцьвіны ці Беларусы, у тым ліку й смальняне, усё-такі наважылі памерыцца сіламі й у першыя гадзіны бітвы навет стварылі паніку ў маскоўскім войску. Потым яны былі абкружаныя й амаль што ўсе палеглі сьмерцяй харобрых. Удалося вырвацца з акружэньня ваяводзе Кішку з малымі астаткамі смальнянаў. Ён вярнуўся ў Смаленск і арганізаваў абарону гораду. Князь Астрожскі трапіў у палон.

Гэтая перамога над аддзелам князя Астрожскага была з такім трыумфам успрынятая ў Маскве, як гэта рабілася ў старавечным Рыме пасьля падбіцьця Галіі ці пярэдняе Азіі. У ваенную гісторыю Маскоўшчыны яна ўвайшла, як першая перамога над арміяй Вялікага Княства Літоўскага.

Мы гэтымі прыкладамі, ведама, ня імкнуліся паказаць беларускасьці Смаленшчыны, але проста абаронную здольнасьць Беларусаў, калі гэтага патрабавалі абставіны.

Цяпер некалькі словаў пра «заканамернасьць» абароннай супольнасьці славянаў навет з тэндэнцыяй да палітычнай супольнасьці. Бязумоўна, што тая ці іншая група народаў будзе выступаць супольна, калі ей пагражае супольная небясьпека. Але-ж гэта не азначае выкоўваньня й палітычнага адзінства.

На Кулікавым полі ў 1380 годзе супраць Мамая выступіла 100-тысячная маскоўская армія. На той час — гэта астранамічны лік. Саюзьнікам Мамая была й літоўская армія на чале зь вялікім князём Ягайлам. Аднак Ягайла зрабіў, як відаць, дыпляматычную затрымку й не пасьпеў на поле бою. Горды Мамая былі разьбітыя. Наадварот, у паходзе супраць Татараў Вітаўта ў 1399 годзе маскалі ня прынялі ніякага ўдзелу, але разам зь Вітаўтам выступілі й аддзелы Крыжацкага Ордэну.

Што-ж тычыцца так званае перамогі над Татарамі 1480 году, дык тут вымаваў Маскоўшчыну зьбег шчасьлівых абставінаў. Урад Вялікага Княства Літоўскага за ўсякую цану імкнуўся да вайны з Маскоўшчынай за Вялікі Ноўгарад, наагул, каб забясьпечыць свае ўсходнія межы. З гэтае нагоды была таксама выклікана на пагранічча Маскоўшчыны армія Залатой Орды на чале з ханам Ахматам. На бок Літвы перайшлі таксама два браты вялікага Маскоўскага князя Івана III, а таксама баярства Ноўгараду. Заставалася толькі дзеяць. Аднак, вялікі князь і польскі кароль Казімір, будучы заняты у Чэхіі й Вугоршчыне сваей дынастычнай палітыкай, зыгнараваў палітычныя інтарэсы Вялікага Княства Літоўскага. Была адмоўленая дапамога братом Івана III і яны змушаныя былі вярнуцца ў Маскву.

Была адмоўленая таксама дапамога Ноўгараду ды зраджаны саюзьнік Ахмат. З жніўня да сярэдзіны лістапада прастаялі адна супраць другой на Ацэ арміі Ахмата й Івана III, ня ўступіўшы ў бітву. Ахмат вымушаны быў адступіць з прычыны зімы. Пры адыходзе ён яшчэ добра лізануў усходняе пагранічча Вялікага Княства Літоўскага за зраду Казіміра. На Волзе Ахмат быў пераняты Нагайскай Ардой. У гэтай схватцы з нагайцамі загінуў і сам Ахмат. Казімір-жа пасьпяшаўся заключыць мірную ўмову зь Іванам III.

Як ведама, подобная палітыка Казіміра выклікала агульнае незадаваленьне ў Літве, што прывяло да змовы супраць Казіміра й ягоных сыноў у 1481 годзе. Праўда, змова была раскрытая, а ейныя ўдзельнікі паплаціліся жыцьцём, аднак прапольская палітыка Казіміра адкрыла пачатак экспансіі Маскоўшчыны ў межы Вялікага Княства Літоўскага.

Такім чынам цяжка гаварыць пра гістарычную абаронную супольнасьць славянаў, тым больш, што з канца 15 стагодзьдзя распачалася доўгая й крывавая вайна між Маскоўшчынай і Вялікім Княствам Літоўскім ці беларускай дзяржавай.

**П. Залужны**

# Сёе-тое

Некалі Краўчанка «выбраў свабоду» й напісаў пра гэта кніжку, што сталася вялікай сэнсацыяй. Далёка адплылі тыя часы. Вунь колькі ўжо пасьля «выбралі свабоду», а ў Бэрліне бальшавіцкія пад'ярэмнікі кажны дзень сотнямі пераходзяць на гэты бок. Людзі пачалі ўважаць гэта за нармальнае зьявішча.

Калі Эстонец з паходжаньня марак Якімец пакінуў у Нью Ёрку Мікітаў мараплаў «Балтыку» й папрасіў у Амэрыканцаў палітычнага азылю, ягоны акт быў Амэрыканцамі менш камэнтаваны, чымся смуродны Мікітаў чаравік, стукаючы якім па стале, маскоўскі лідар вырабляў гоцкі на паседжаньні Задзіночаных Нацыяў.

Усё-ж ня меншую ўвагу прыцягнуў да сябе багаж, які Хрушчоў забраў з сабою, пакідаючы Нью Ёрк. Гэты чалавек, што, згодна ягоных-жа прароцтваў, хутка прывядзе Савецкі Саюз да камунізму, дзе ўсім будзе ўсяго даволі, шчасьце будзе плысьці рэкамі й гэтак далей і да гэтага падобнае, пакідаючы Нью Ёрк, забраў з сабою наступнае:

1. Заладавана на «Балтыку»:

Лімузына Кадыляк із запаснымі батарэямі; аўта Ольдсмабіль, аўта Комэт, два тэлевізары, дзьве мыцьцёвыя машыны ды апрача гэтага, цэлую горбу розных скрыняў і пакункаў з таварамі.

2. Заладавана на самалёт: 6 новых апонаў, 12 аўтамабільных батарэяў, 12 галёнаў антыфрызу (процімарознай вадкасьці), 25 розных чамаданаў, 2 мяхі запакаваных у падарункавую паперу пачак, 4 новыя фотаапараты й пяць вялікіх скрыняў зь няведамымі таварамі.

Мікітава сям'я й дагэтуль не карысталася «авоськамі», а цяпер, калі бацька падарожнічае так многа, дык і грэх было-б.

Тае, што курскі карыфей закупамі зьехаў сабе прапагандовую аплявуху, ня мае для нас асноўнае вагі. Цікавіць нас іншае: на якую суму Мікіта абрабаваў скарб савецкае дзяржавы, хоць і гэта ня мае для прыгнечанага народу істотнай вагі?

За перасыланыя з Амэрыкі ў Савецкі Саюз пачкі з таварамі для родных людзі плацяць мытныя й іншыя бальшавіцкія прычэпкі, як ліцэнзіі, перасылкі й інш., амаль да 75% арыгінальнага кошту тавараў. Пытаньне: калі-б давялося мерац гэтай меркай, колькі мыта давялося-б заплаціць Мікіту?

# На сьвята акадэмічнае моладзі

Управа Беларуска-Амэрыканскага Акадэмічнага Таварыства, прысылаючы матарыялы на сваю дзесятую гадавіну дзеля надрукаваньня ў «Бацькаўшчыне», зьвярнулася да мяне асабіста з просьбай, каб і я напісаў нейкі артыкул дзеля адзначэньня гэтае гадавіны. Зь вялікай прыемнасьцю й сатысфакцыяй выконваю гэтта просьбу маіх малодшых калегаў.

Ня ведаю, зь якой прычыны, сярод беларускіх арганізацыяў у Амэрыцы найменш чуваць якраз аб Беларуска-Амэрыканскім Акадэмічным Таварыстве, ня гледзячы на тое, што яно ўжо мае за сабой дзесяць год існаваньня й бясспрэчна плённай дзейнасьці. Можа гэта таму, што нашае старэйшае грамадзтва за мала прысьвячае ўвагі гэтай арганізацыі й ягоным сябром, а можа таму, што як само Таварыства, гэтак і паасобныя сябры ягоныя пераўвялічваюць у сваей скромнасьці й самых сябе за мала рэклямуюць. Мне здаецца, што ў гэтым дзеюць абедзьве ўспомненыя прычыны. А дзеля больш шырокага самарэклямаваньня Таварыства мае ўсе дадзеныя.

Перадусім праробленая Таварыствам і некаторымі ягонымі сябрамі за апошніх дзесяць гадоў дзейнасьць бясспрэчна мае далёка не апошнюю ўдзельную вагу ў вагульных дасягненьнях нашае палітычнае эміграцыі за пасьляваенны пэрыяд часу. У вагульных рысах важнейшыя канкрэтныя вынікі гэтае дзейнасьці прадстаўленыя ў зьмешчаных у гэтым нумары матарыялах, прыгатаваных самымі сябрамі Таварыства на дзесятую гадавіну ягонага існаваньня. Дзеля гэтага ня буду тут спыняцца над тым, што Таварыства й ягоныя сябры дагэтуль зрабілі, а зьвярну ўвагу вылучна на тое, што ў далейшым зрабіць могуць і павінны.

Беларуска-Амэрыканскае Акадэмічнае Таварыства, як ведама, гуртуе ў сабе ня толькі студэнтаў вышэйшых навучальных установаў у вольным сьвеце, у васноўным у Амэрыцы, але й абсальвэнтаў, якія гэтыя школы паканчалі, атрымалі навуковыя ступені й сяньня працуюць кажны ў сваёй прафэсіі. Такім чынам, паводля свайго веку й жыцьцёвых дазнаньняў — гэта з аднаго боку студыюючая моладзь у літаральным значаньні гэтага слова, а з другога — з закончанай вышэйшай асьветай і некаторым стажам як прафэсіянальнай, гэтак і грамадзкай дзейнасьці. Калі гаварыць больш канкрэтна, гэта ўжо самастойныя й на высокай інтэлектуальнай узроўні грамадзкія працаўнікі малодшага ад нас пакаленьня, якія ня толькі заменяць нас у бліжэйшай будучыні, але прынамся некаторыя зь іх, ужо цяпер увайшлі поўнасьцю ў нашыя рады.

Апрача гэтага, яны ўсе ў шмат выгаднейшым, чымся мы, палажэньні, а дзеля гэтага маюць і шырэйшыя, чымся мы, магчымасьці грамадзкай і нацыянальна-палітычнай дзейнасьці на чужыне. Гэта галоўна таму, што калі мы пачыналі й вядзём далей нашую нацыянальную дзейнасьць на чужыне, як людзі тут чужыя, яны, ня розьнячыся ад нас як Беларусы, на чужыне ўжо чужымі не зьяўляюцца.

Сябры Таварыства, якія хутка скончаць або ўжо скончылі вышэйшыя школы краінаў свайго пасяленьня, увайшлі такім чынам у культурнае жыцьцё Захаду, апанавалі ў дастатковай ступені заходнія мовы, пры гэтым, будучы грамадзянамі гэтых краінаў, карыстаюцца ўсімі тымі прывілеямі, што й карэнныя жыхары гэтых краінаў. Да ўсяго гэтага трэба дадаць і тое, што кажны зь іх мае магчымасьць працаваць паводля сваёй прафэсіі, а таму справа належнага матарыяльнага забясьпечаньня не прадстаўляе для іх ніякае праблемы.

Усе гэтыя акалічнасьці ставяць нашых малодшых калегаў у шмат лепшае ў прыраўнаньні з намі палажэньне й ствараюць ім узапраўды шырокія магчымасьці для нацыянальна-палітычнай, грамадзкай культурнай ды ўсякай іншай дзейнасьці для нацыянальна-вызвольнай справы. Ад моладзі самой, а так-жа й ад старэйшага грамадзтва ўжо залежыць, каб гэтыя спрыяльныя магчымасьці былі належна выкарыстаныя.

Справа ў тым, што ўсе тут пералічаныя перавагі нашага маладога пакаленьня хаваюць у сабе й вялікую небясьпеку ў выпадку, калі сярод моладзі й для справы моладзі ня будзе праводзіцца належная нацыянальная дзейнасьць.

Адцемленыя вышэй шырокія магчымасьці нашае акадэмічнае моладзі дзеля ўваходу ў амэрыканскае жыцьцё, як раўнапраўных у ім удзельнікаў, ствараюць ня менш шырокія магчымасьці й дзеля ейнае асыміляцыі, спачатку псыхалягічнае, а за ёй і нацыянальнае. І толькі інтэнсыўная праца моладзі над сабой, паглыбленьне й замацоўваньне набытых ужо нацыянальных якасьцяў пры адначасным здабываньні ўсьцяж новых, а так-жа актыўны й прадуктыўны ўдзел у беларускім палітычным, грамадзкім і культурным жыцьці й дзейнасьці зможа адхіліць гэтую небясьпеку.

Поле для нацыянальнае дзейнасьці нашае акадэмічнае моладзі нязвычайна шырокае, проста неабмежаванае. Ня менш шырокія, як ужо гаварылася, і магчымасьці дзеля гэтае дзейнасьці. Патрэбная толькі добрая воля й глыбокае ўсьведамленьне няўхільнага для ўсіх нас абавязку, што пры ўсякіх жыцьцёвых абставінах і пры розных вонкавых акалічнасьцях на нас ляжыць вялікі доўг перад Бацькаўшчынай і Народам.

Хочацца верыць, што нашая акадэмічная моладзь гэты доўг сплаціць з гонарам, чаго ёй у ейнае дзесяцігодзьдзе ад шчырага сэрца жадаю.

**Ст. Станкевіч**

*

Восьмы нумар «Полымя» за сёлетні жнівень зьмяшчае рэцэнзію нейкага Васільева пра выдадзены нядаўна Акадэміяй Навук БССР **«Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529-га году.»**

Аўтар спасьцерагае, што «літоўскія феадалы ўстанавілі над Белай Русьсю сваю ваенную й палітычную ўладу, але... літоўская дзяржава прыняла мову й культуру заваяванага народу». Гэта такая-ж праўда, як і тое, што, згодна савецкіх гісторыкаў, Беларусь пасьля дабравольна ўзьядналася зь «вялікай Русьсю», а сто пяцідзесяцігадовая сэрыя войнаў Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўшчынай гэта былі адно забавы, дзе жаўнеры стралялі паранай рэпай і пражаным гарохам...

Аўтар не адважыцца сказаць праўды. Вышэйпрыгаданы статут правоў ВКЛ разглядае ён у плошчы клясава-сацыяльных узаемадачыненьняў, хоць і прыгадвае, што гэты цэнны помнік мае й вялікае значаньне для студэнтаў старажытнае беларускае мовы. Васільева бярэ жах, калі чытае ў статуце такое: «А коли простый хлоп або мешчанин шляхтича соб'ет, а рукою на него сягнеть а окрывавить его, а он бы то на него правом перевел, тогды иным ничым не мають каран быти, только руки втятьем». Сяньняшняй беларускай мовай гаворачы — за замах на шляхціца селяніну або мешчаніну, калі гэта было даведзена судам, адсякалі руку. У іншым-жа месцы сказана, што за забіцьцё селяніна вызначалася кара ў дзесяць коп грошай. «Такая праўда, суровая, жахлівая аб станові-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Зь дзейнасьці й жыцьця Б.А.А.Т.

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

мікаў, зрабіць зь яе трывалы асяродак маладое беларускае інтэлігенцыі ў Амэрыцы.

Гэтая рэарганізацыя БСТА была фармальна праведзеная на 6-ым Гадавым Зьезьдзе, 7—8 верасьня 1957 г. у Нью Ёрку. Назоў арганізацыі быў зьменены на «Беларуска-Амэрыканскае Акадэміцкае Таварыства» (БААТ).

На гэтым-жа зьезьдзе была створаная філія Беларускага Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду на Паўночную Амэрыку. Заданьні гэтае філіі: 1) спаганяць задоўжанасьць былых беларускіх студэнтаў у Нямеччыне, якія атрымалі ў свой час стыпэндыі ад Стыпэндыяльнага Фонду. (Бальшыня іх цяпер пражывае ў Паўночнай Амэрыцы і маюць магчымасьць зьвярнуць свой доўг). 2) выкарыстаць сабраныя фінансы для дапамогі беларускім студэнтам у Амэрыцы.

У 1957 г. БААТ налічвае ўжо 65 сяброў. Зь іх 25 студыюе, 25 закончылі студыі, 9 — часова перарвалі студыі, і 6 — не пачыналі студыяў.

Бяручы пад увагу, што больш за палавіну сяброў БААТ закончылі студыі і што ў бальшыні выпадкаў іхная інтэлектуальная праца зводзіцца да выконваньня свае прафэсіі, пасьля 1957 г. БААТ паставіла большы націск на культурна асьветную дзейнасьць. Гэтак ад восені 1957 г. да сяньня ў БААТ былі прачытаныя наступныя рэфэраты:

30. 11. 1957 «Вышэйшыя школы ў Беларусі» Др Я. Станкевіча, 2. 3. 1958 — «Выкарыстаньне энэргіі атаму для мірных мэтаў» Ю. Станкевіча, 4. 4. 1959 — «Нерасейскія тэрыторыі — сыравінная база Савецкага Саюзу» Др. В. Кіпеля. Гэты рэфэрат быў прачытаны на Калюмбійскім унівэрсытэце ў рамках Міжнароднай Студэнцкай Канфэрэнцыі супраць расейскага імпэрыялізму. 7. 5. 1960 — «Мастацтва — паказьнік культуры народу» сп-ні Г. Русак, 18. 6. 1960 — «Электронныя вылічальныя машыны» Ю. Станкевіча, 24. 9. 1960 — «З жыцьця й дзейнасьці Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні» Др. Ст. Станкевіча.

Апрача таго БААТ зарганізавала ў 1959 г. у Нью Ёрку й Нью Брансьвіку, Н. Дж., дзьве інфармацыйныя зборкі для моладзі, якая закончыла сярэднюю школу й думае ісьці на ўнівэрсытэт. Мэтай гэтых зборкаў было пазнаёміць абсальвэнтаў сярэдніх школаў і пачынаючых студэнтаў з пэрспэктывамі й магчымасьцямі студыяў у розных галінах навукі.

Увосені 1958 г. Урад БААТ апрацаваў інфармацыйную радыяперадачу аб Беларусі ў ангельскай мове, якая перадавалася на праграме сп. М. Казьлякоўскага ў Нью Ёрку.

У гэтым пэрыядзе таксама ўзрастае лучнасьць БААТ зь іншымі студэнцкімі й грамадзкімі арганізацыямі. У выніку нашага ўдзелу ў Міжнароднай Студэнцкай Канфэрэнцыі Супраць Расейскага Імпэрыялізму (гл. вышэй) БААТ навязала даволі жывую сувязь з «Гуртком Пэтэфі» — арганізацыяй мадзярскіх студэнтаў і інтэлектуалістых. Сябры «Гуртка Пэтэфі» — гэта пераважна паўстанцы з 1956 г. Адначасна зь іншымі беларускімі грамадзкімі арганізацыямі, БААТ выслала ў 1957 г. ліст да Прэзыдэнта Айзэнгаўэра ў справе дапушчэньня беларускае мовы ў радыяпраграму «Голасу Амэрыкі». У 1957 г. БААТ стаецца сябрам Беларуска-Амэрыканскае Дапамогі.

Два гады дзейнасьці філіі БССФ у Амэрыцы прынесьлі вельмі добрыя вынікі.

Філія сабрала каля 900 дал. і пачала даваць стыпэндыі патрабуючым беларускім студэнтам у ЗША.

Апошні 7-мы Гадавы Зьезд БААТ, які адбыўся 5-га верасьня 1959 г. ў Нью Брансьвіку, зьвярнуў найбольшую ўвагу на большы ўдзел усіх сяброў Таварыства ў сыстэматычнай інтэлектуальнай працы, асабліва ў працы на беларускія тэмы, якая ўзбагаціць беларускую культуру. Было пастаноўлена прыступіць да апрацаваньня й выданьня інфармацыйнага зборніка аб Беларусі ў ангельскай мове, нястача якога ўсё яшчэ вельмі балюча адчуваецца. Сяньня ўжо цэлы рад спэцыялістых зь беларусаведы апрацоўваюць матар'ял для зборніка. Другі паважны праект, у якім цяпер бярэ ўдзел шмат сяброў БААТ (супольна зь Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва і іншымі зацікаўленымі асобамі) — гэта апрацаваньне ангельска-беларускага слоўніка.

Апрача ўзмоцненай працы унутры арганізацыі, БААТ і надалей працуе ў кірунку папулярызацыі беларускае справы сярод амэрыканскага студэнцтва. Апошняе нашае дасягненьне — гэта выстаўка беларускае кнігі ў Даглес Каледж у Нью Брансьвіку, Н. Дж.

Цяперашні Урад БААТ імкнецца таксама сыстэматычна інфармаваць беларускае эміграцыйнае грамадзтва аб дзейнасьці й мэтах арганізаванага беларускага студэнцтва ў Амэрыцы. Гэта робіцца пры дапамозе артыкулаў і ведамак у беларускай прэсе.

На пачатку 1959 г. БААТ мела 60 сяброў, якія належылі да дзьвюх тэрытарыяльных адзінак: аддзелу Огаё, які ахапляе сярэдня-заходнія й заходнія штаты ЗША, і аддзелу Нью Ёрк, які ахапляе ўсходнія штаты.

31 сяброў студыявалі; з гэтага ліку 15 на дыплём бакалаўра, 10 на дыплём магістра й 6 на дыплём доктара. З гэтага вынікае, што 27% нашых сяброў здабывае вышэйшыя навуковыя ступені — вельмі пацяшальнае зьявішча. Дагэтуль 19 сяброў здабыло дыплём бакалаўра, 6 — дыплём магістра й 6 дыплём доктара.

Што датычыцца прафэсіяў, у якіх працуюць сябры БААТ, дык можна сказаць, што маем сваіх прадстаўнікоў амаль ува ўсіх. Маем 16 інжынераў, 8 доктараў мэдыцыны, 5 хімікаў, 3 філёлёгаў, 7 адміністратараў і эканамістых, 3 біялёгаў, 3 гісторыкаў, 2 тэалёгаў, 3 фізыкаў і матэматыкаў, 2 мастакоў і архітэктараў, бібліятэкараў, аграномаў, палітычных навук, ды іншыя.

Дзякуючы стараньням цяперашняй Гал. Управы БААТ ды ахвярнай працы яе паасобных сяброў, у нашыя рады прыбываюць новыя студэнты. Сяньня Акадэміцкае Таварыства ўжо налічвае 75-ць сяброў, а трэба спадзявацца, што гэты лік у скорым часе павялічыцца.

Дай Божа ўсім ім шчасьця й вытрываласьці ў працы і студыях на дабро свайго Беларускага Народу, які ў сваёй вызвольнай барацьбе гэтак патрабуе інтэлігэнтаў і патрыётаў.

**Ю. Станкевіч**

# Беларускія студэнцкія выданьні

Беларускія студэнцкія выданьні за межамі Беларусі ёсьць хіба адным з выдатнейшых прыкладаў дзейнасьці нашай эміграцыі пасьля другой сусьветнай вайны. Амаль да гэтага часу, больш ці менш раўнамерна, часам зь перарывамі выходзіў нейкі студэнцкі часапіс.

Характэрным для ўсіх студэнцкіх часапісаў было тое, што яны ставілі сваёй мэтай, побач служэньня інтарэсам студэнцкіх арганізацыяў ды беларускіх студэнтаў наагул — абслугоўваньне шырокіх колаў беларускай эміграцыі. Беларускі студэнт быў актыўным удзельнікам беларускага грамадзкага жыцьця й таму ягоны часапіс заўсёды выказваў становішча студэнцкай моладзі да розных праяваў у нашым грамадзкім і палітычным жыцьці.

Часапіс падаваў хроніку зь беларускага жыцьця, ды часам інфармаваў аб сусьветных падзеях. Ды й па колькасьці выдаваных экзэмпляраў часапісаў відаць, што ён прызначаўся для шмат шырэйшага чымся студэнцкага кола. Асабліва, калі ня было іншых беларускіх часапісаў ці было іх вельмі мала, студэнцкія часапісы адыгрывалі вялізную ролю ў кансалідацыі беларускага эміграцыйнага жыцьця.

Дзень 26-га лістапада 1945 г. трэба хіба сяньня прызнаць гістарычным днём, — у гэты дзень быў выдадзены Беларускім Студэнцкім Згуртаваньнем у Мюнхэне першы нумар **«Студэнцкіх Вестак».** Гэта было першае студэнцкае ды першае беларускае выданьне наагул на эміграцыі пасьля II-ой сусьветнай вайны.



**Беларускія студэнцкія выданьні**

Сяньня адзначаючы X-ыя ўгодкі студэнцкай арганізацыі ў ЗША, цікава ўспомніць важнейшыя факты аб студэнцкіх выданьнях. Найлепш зрабіць гэта хіба ў храналягічным парадку.

**«Студэнцкія Весткі»;** выдавец — Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Мюнхэне, выйшла два нумары, па 8-м балонак кажны, першы нумар выйшаў у лістападзе, а другі ў сьнежні 1945 г.

Гэтыя, сьціплыя памерам, нумары часапісу зьмяшчалі заклікі да беларускай моладзі, каб паступала на студыі, ды інфармацыі аб наяўных у той час магчымасьцях студыяў.

Часапіс пачаў выходзіць хутка пасьля заснаваньня БСЗ. Часапіс гэты адыграў важную ролю ў гуртаваньні беларускай студэнцкай моладзі ў Мюнхэне ды шмат прычыніўся да стварэньня тут моцнага беларускага асяродку. Лістаючы сяньня балонкі «Студэнцкіх Вестак», кажны з нас можа быць гордым, што невялікая група маладых студэнтаў (пераважна абсальвэнтаў сярэдніх школаў) была адной зь першых, што ў час пасьляваеннай разгубленасьці й запалоханасьці зрабіла даволі рэальную ацэнку сытуацыі ды клікала сваіх сяброў да навукі й працы.

**«Крывіцкі Сьветач»;** выдавец — Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Мюнхэне, выйшла 7 нумароў (ад № 3 да № 11) у 1946 г. і адзін нумар у 1947 г.

Расло Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне, рос і ягоны выдавецкі ворган, які быў перайменаваны ў **«Крывіцкі Сьветач».** У Мюнхэн прыбываюць старэйшыя студэнты. Часапіс ня толькі павялічвае свой тыраж (300 да 500 экз.) і памер (ужо да 32 бач.), але й пашырае й паглыбляе свой зьмест. Зьяўляюцца сур'ёзныя артыкулы на тэмы гісторыі, літаратуры ды артыкулы аб справах грамадзка-палітычных. Выдаўцы часапісу ясна ўяўлялі сабе, што часапіс павінен быў служыць усяму беларускаму грамадзтву, і гэта ў першую чаргу вызначала ягоны зьмест. Назоў часапісу перадусім адлюстроўваў як ідэялістычнае настаўленьне студэнцкай моладзі, так і моцную ў той час плынь сярод беларускага грамадзтва на эміграцыі за паварненьне нашага гістарычнага назову **Крывіч.** Год 1946 быў вельмі плённым годам на выдавецкай ніве БСЗ; студэнтам, што актыўна студыявалі, выдаць 7-м нумароў часапісу пры матар'яльных цяжкасьцях, у якіх яны жылі, было справай запраўды ня лёгкай! Часамі меў ён асабліва стараннае вонкавае афармленьне; усе хіба памятаюць прыгожую вокладку **«Крывіцкага Сьветача»** зь бел-чырвона-белай нацыянальнай паласой зь левага боку.

**«Студэнцкі Кліч»,** выдавец — Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Мюнхэне, выйшла 3-ы нумары часапісу за жнівень-кастрычнік 1947 г.

Першы нумар «Студэнцкага Клічу», у які быў перайменаваны «Крывіцкі Сьветач», выйшаў у часы, калі БСЗ перажывала цяжкія хвіліны.

Унівэрсытэт УНРРА ў Мюнхэне, які наведвала вялікая частка сяброў арганізацыі, быў зачынены. Перад студэнтамі стаяла ня лёгкае заданьне паступіць у перапоўненыя нямецкія ўнівэрсытэты. З другога-ж, чыста нацыянальнага боку, ужо аформіўся распадзел беларускай эміграцыі стварэньнем Беларускай Міжлягернай Рады. Беларускае студэнцтва асабліва балюча адчувала падзел у беларускай эміграцыі, што было выразна адлюстравана ў першым нумары «Студэнцкага Клічу». Ідучы аднак за сваім традыцыйным ужо лёзунгам — «Вучыся, працуй і змагайся», нашае студэнцтва перамагло ўсе цяжкасьці. Амаль усе студэнты паступілі на нямецкія ўнівэрсытэты. На грамадзкай ніве, студэнты аб'ектыўна й крытычна ацаніўшы сытуацыю, асудзілі праявы разьбіцьця беларускай эміграцыі і пайшлі шляхам, на які стала ўся дзейная й ідэйная беларуская эміграцыя. У гэты-ж час Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне перайменавала свой часапіс у «Студэнцкі Кліч».

Сяньня гучыць крыху парадаксальна, што студэнты адмовіліся ад прыгожага назову свайго часапісу. Студэнты, што аднымі зь першых узяліся папулярыза-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

---

каў на ўсходзе. Немцы зноў зь свайго боку стараліся перахітрыць Вітаўта, засяляючы Жамойць сваімі каляністымі, зьядноўваючы да сябе Жамойцаў лагоднай палітыкай ды нечапаньнем іхняга парадку, іхняй веры.

Калі толькі Вітаўт вывеў сваю армію з Жамойці, пачаліся ізноў паўстаньні. Вітаўт тады пасылаў сваіх ганцоў з загадам, каб слухаліся новых паноў. Хіба большых прыкладаў «вернасьці» Вітаўта да Крыжакоў не магло быць. І таму вялікі Майстар не знаходзіў слоў на выражэньне падзякі Вітаўту, радзіўся ў самых дробных справах у яго, як правіць Жамойцяй, а навет кляўся, што нічога ня зробіць новага ў гэтай зямлі безь яго рады.

І Вітаўт не адстае ад «любові» да Крыжакоў. Ён пасылае дарагія падаркі в. Майстру, коні, шубы, куніцы. Робіць гэта і вялікая княгіня. Ён паўторна загадвае Жамойці слухацца Крыжакоў, калі ў канцы 1405 г. Немцы сталі браць закладнікаў сярод жамойскага баярства ды гэтым выклікалі жамойцкі супраціў.

### Нямецкія пляны «на Ўсход» і Вітаўтавае супрацьдзеяньне

Але Крыжакі ня спыніліся на Жамойці. Яны працягвалі свае рукі туды, куды меціў сам Вітаўт. У Пскове, Смаленску, Ноўгарадзе закладалі свае склады, калёніі, цэрквы. Слалі свой тавар і сваіх агентаў. Да Пскова выказвалі свае прэтэнсіі на аснове запіскі кн. Андрэя Полацкага й Сьвідрыгайлы, ды паклікаліся на дакумант з Рацяжа, падпісаны Вітаўтам. Лівонскі ордэн сьпешна тут выпераджаў Вітаўта ды ўспамагаў кн. Юрага Смаленскага, знайшоўшага тут прыпынішча.

Вітаўт зноў зы свайго боку намагаўся не дапусьціць ці выкінуць Немцаў з гэтых зямель. Ён дагаварваўся з Данскім каралём, з марскімі піратамі, зь біскупам Дорпацкім, каб дасягнуць свае мэты. Спрыяльнай было умовай, што Крыжакі яшчэ належна не ўмацаваліся ў Жамойці, а Лівонскі ордэн дзейнічаў сваімі сіламі. Таму Вітаўт стараўся пасварыць яго з Крыжакамі. Разгарнуў ён і шырэйшую прапаганду. Польшча, Курыя рымская ды навет Крыжакі сталі шырыць на заходзе Эўропы прапаганду, што Ліцьва — апора хрысьціянства на Ўсходзе перад Татарамі і схізматыкамі, а Вітаўт ёсьць тым, які павінен стацца каралём усходня-славянскіх зямель.

### Змаганьне за Пскоў і Ноўгарад

Вітаўт ведае аб усім гэтым і таму пачынае мацней стукаць кулаком. Вось ён жадае выдачы кн. Юрага Смаленскага, які прыбыў у Мальборг да в. Майстра і дагаварваецца з Крыжакамі супраць Вітаўта. Ганец вялікага Князя прыбывае ў Мальборг ды станоўка дамагаецца адхіліць намеры Юрага. І Крыжакі былі змушаныя гэта зрабіць. Яны асьветчылі кн. Юраму: «Калі кн. Юры ёсьць ворагам кн. Вітаўта, то нельга прасіць Закон помачы супраць Ліцьвы, бо Закон жыве зь Вітаўтам у такой прыязьні, што нікога супраць яго ня можа падтрымоўваць, ані навет успамагаць радай. Закон засьцярог сабе ў дагаворы, што хто ёсьць ворагам Закону, той ёсьць так-жа ворагам кн. Вітаўта, а хто ёсьць яго ворагам — той і наш вораг» (Прагаска, 68).

Вялікі Майстар зараз-жа павядоміў Вітаўта, як адправіў кн. Юрага, і аб тым, што даў загад Лівонскаму Майстру, каб паступіў падобна.

Вітаўт маланкава выкарыстаў спрыяльныя ўмовы. Ён накіраваў да Лівонскага Майстра Ветынгофа паслоў зь інструкцыяй, каб той паведаміў сваіх саюзьнікаў: Пскоў і Ноўгарад, што між Ліцьвой і Крыжакамі існуе ўмова аб узаемадапамозе й дружбе, ды каб ня сьмелі гэтыя рэспублікі падтрымліваць дзеяньні варожыя для Ліцьвы, як вось авантуру з кн. Юрым Смаленскім. Лівонскі Майстар доўга ўпіраўся, засланяючыся сваімі собскімі інтарэсамі ды добрасуседзкімі дачыненьнямі з Псковам і Ноўгарадам.

Калі аб усім гэтым перадалі паслы Вітаўту, ён абураны павядоміў в. Майстру, дамагаючыся, каб ён даў загад аб вымаўленьні міру між Лівоніяй а Псковам і Ноўгарадам. І вось напорнасьць Вітаўта свайго дапяла: Рада старшыняў Закону пастанавіла выканаць волю Вітаўта. «Ведай наш намесьніку, — пісаў вял. Майстар Лівонскаму — нам здаецца, што справы могуць пайсьці дрэннай дарогай, калі на цябе пачынае наракаць Вітаўт, а ты так станоўка яму адказваеш. Ведай, што Вітаўт ніколі гэтага не забудзе, і ніхто ня ведае, якую ён помсту нарыхтуе» (Код. эп. Вт. б. 110).

Было пастаноўлена склікаць зьезд ў Коўні з удзелам прадстаўнікоў ад Лівонскага Майстра. Вітаўт, каб адудзячыцца Крыжаком, абяцаўся пабудаваць сваім коштам яшчэ адну цьвярдыню ў Жамойці для Закону.

Зьезд у Коўні, што адбыўся на Сёмуху 1405 г., задаволіў дамаганьні Вітаўта.

Вітаўт трыумфаваў у перамогах сваёй дыплямацыі.

Зараз-жа ён выслаў паслоў у Ноўгарад з дамаганьнямі выдачы кн. Юрага Смаленскага. «Калі мне яго ня выдадзіце, — казаў ён цераз паслоў, — нападу на вас разам зы сваімі саюзьнікамі Немцамі й агнём і мячом зруйную й спапялю вашу зямлю» (Прагаска, 71). Перапалоханыя Ноўгарадцы прынялі пастанову аб пасылцы сваіх паслоў да Вітаўта дзеля перагавораў.

Тымчасам Вітаўт ня перастае на пагрозах. Ён грамадзіць магутную армію, дамагаецца ўспамагальных аддзелаў ад Крыжакоў і Палякаў, а аднначасова перасякае Немцам шлях у Пскоў і Ноўгарад спрытным ходам. Паймення 21 ліп. 1405 Палачане падпісваюць з Рыгай умову, на аснове якой прызнаецца ў Рызе права складу для літоўскіх купцоў. Гэтак сама Рыжанам дазволена мець склады ў Полацку, а гандаль Немцаў з Ноўгарадам і Масквой дазваляецца толькі за пясярэдніцтвам Полацка. У ўмове гаварылася: «Вам нашага Палачаніна сцярэчы, как сваяго брата Немчына у Рызе, а нам Палачанам вашага Немчына такжа па томуж сцярэчы у Полацьцэ ... А таргаваці Немецкаму купцю з госьцем Літоўскае зямлі дабравольна. А з ноўгарадцы Немецкаму купцю таргаваці, а промежы іма хадзіці Палачаніну: занеже нас Ноўгарадцы не пусьцяць у Нямецкі двор таргаваці без свайго Навгародца. А с Масквічы таргаваці вашым Немцам; таксама нашаму Палачаніну межы імі хадзіці, таргаваці: занеже нас Масквічы тамгу емлюць» (Русск. Лів. Акты, 120).

Лівонскі Майстар з свайго боку мусіў падпісаць гэтую ўмову.

Наўгарадцы, каб ня мець клопату зь Ліцьвой, выгналі із сваёй рэспублікі кн. Юрага Смаленскага, які ўцёк у Маскоўшчыну да кн. Васіля — зяця Вітаўта.

Вітаўт цяпер свой паход ськіраваў на Пскоў, каб яго падпарадкаваць Ліцьве. Часу яму ня было на здабываньне замкаў, дык спустошыў краіну і ўзяў у палон 11.000 насельніцтва (Пск., 1,6914). Ясная рэч, Пскоў мусіў пакарыцца ды зьмяніць сваю палітыку з прыязнай да Немцаў на варожую. Такую-ж палітыку да Немцаў праводзіў і Ноўгарад. Як бачым, Вітаўт бяз большых стратаў, а толькі дыплямацыяй і сеяньнем страху ў сваіх суседзяў, дасягаў сваёй мэты.

(Працяг у наступным нумары)

**Мікола Волаціч**

# Злачынныя выбрыкі

У нашым народзе трапна кажуць: няма стада без паршывай авечкі. Гэтак ёсьць і сярод нас на эміграцыі. Знайшлася ад даўна такая авечка ды паршывіць нашае жыцьцё. Яе адганялі, адганяюць, а яна сям-там урываецца ў здаровае нашае стада ды непакоіць іншых, пакідае бруд, ганьбіць нашыя высокія сьвятасьці. Людзі кажуць, што яна ашалелая, дык яе чапаць нельга. Чапаць яе нельга — гэта праўда але асьцерагчы іншых — абавязак нашай грамады. Гэтай беларускай хворай авечкай ёсьць Хмара, што выдае ў Канадзе «Беларускі Голас».

Колькі ўжо выліў ён бруду на розныя асобы, на нашыя арганізацыі, на БАПЦ з арх. арх. Сяргеям і Васілём на чале, на БНР і г. д. і г. д. — дык хапіла-б угнаіць зямлю пад плённы пасеў ягонага супольніка Рыжага-Рыскага.

Прыходзіцца цярпець смурод ад гэтага бруду й сароміцца перад культурнымі народамі такой авечкі. Але кажуць, цярпеньне таксама мае сваю меру асабліва тады, калі гэты шалёны чалавек пасягае на нашыя нацыянальныя сьвятасьці, асьмяшае й ганьбіць наш нацыянальны гімн, рэлігійна-нацыянальны Крыж ды ўсіх нас праваслаўных Беларусаў.

Вось прыклады. У № 73 (за верасень 1960) сваёй газэткі Хмара зьмясьціў высока-абразьлівы й бесканечна- вульгарны пашквіль на прэз. Абрамчыка, на БНР і на Раду БНР і яе асобавы склад. У нармальным жыцьці пісака такіх пашквіляў мусіў-бы адказваць перад судом, але ў нашых эміграцыйных умовах прыходзіцца пускаць у няпамяць такія рэчы. Аднак у сваёй пісаніне Хмара перабраў усякую меру. Бо ці-ж магчыма маўчаць, калі Хмара з нашага нацыянальнага гімну зрабіў самую гадзенькую пародыю:

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
Пад фондаў мілы перазвон.
Хай доляр будзе вечна з намі,
А Хмарам мы дамо адпор,
А Хмарам мы дамо адпор.

Чаму ён выбраў наш нацыянальны гімн дзеля пасьмешышча? Ці-ж не хапала яму ўсякіх іншых песьняў? Ясная рэч — песьняў і песенькаў хапае, але Хмары залежала асьмяшыць, панізіць і зганбіць наш нацыянальна-вызвольны гімн, які мы вызнаем, нашае змаганьне за вызваленьне Беларусі ды нашыя нацыянальныя ідэялы. Для выродка, асьлепленага ненавісьцяй да ўсяго нацыянальна-вызвольнага беларускага руху, няма ніякіх ідэялаў, няма ніякіх нацыянальных сьвятасьцяў.

І ўрэшце гэты самы Хмара пайшоў яшчэ далей, стаў зьневажаць нашу нацыянальна-рэлігійную сьвятасьць: Крыж сьв. Ефрасіні Полацкай, патронкі Беларусі.

У чарговым № 74 тае-ж самае газэткі (за кастрычнік 1960) Хмара ставіць у двукосьсі наш нацыянальны Крыж, кажа, што ён каталіцкі, францускі і Бог ведае які, хоць ён красаваўся на нашых праваслаўных сьвятынях да маскоўскага захопніцтва нашых зямель, а сьв. Ефрасіня Полацкая ўстанавіла яго як найбольшую нацыянальную нашу сьвятыню з праклёнам на яго парушальнікаў і зьневажальнікаў. Як праўдзівы бязбожнік, Хмара не збаяўся зьняважыць нашай сьв. Патронкі Беларусі, як і нашых нацыянальна-рэлігійных пачуцьцяў.

Выступаючы ў ролі маскоўскага наемніка, Хмара прабуе адстаяць маскоўскі крыж — называючы яго «традыцыйным», «праваслаўным» крыжам для нас Беларусаў, прамоўчваючы аб тым, што сьв. Праваслаўе ў сваіх старадаўных цэнтрах — у Візантыі, Грэцыі, Палестыне, Афрыцы і многіх іншых краінах ня ведала й ня ведае маскоўскага крыжа з касой крыжалінай. Ясная рэч, Масква ўвяла сваю «традыцыю» і на нашых беларускіх землях разам з усёцэльнай няволяй, а цяпер патрабуе Хмараў, Рыжых і ім падобных, як сваіх адвакатаў для абароны знакаў расейскага паняволеньня, калі беларуская праваслаўная парахвія пастанавіла пазбыцца гэтай маскоўскай спадчыны. Ліст аднаго з парахвіянаў прыходу ў Кліўлендзе, друкаваны нядаўна ў «Бацькаўшчыне», вымоўна давёў, што тут др. Станіслаў Грынкевіч ня прычым, што ўся ініцыятыва й правядзеньне прыняцьця свайго нацыянальнага Крыжа — была й ёсьць справай самых праваслаўных прыхаджанаў. Дык тут ужо ня ўдасца навет найбольш прававерным маскоўскім служкам, да якіх залічае сябе Хмара, зьбіць з праўдзівага шляху нашых людзей пострахам «вуніяцтва» ці нейкага фантастычнага папскага «прадмосьця», «трамапаліны».

Дзіўна й падазрона робіцца, калі раптам Хмара, каторы ўвесь час высьмейваў нашага архіяпіскапа Васіля й нашую сьвятую БАПЦ, супрацьстаўляючы яе фікцыйнай і самазванчай — арх. Фінкоўскага, зрабіўся няпрошаным адвакатам і абаронцам так самога арх. Васіля, як і БАПЦ. Ад такіх «аблакатаў» сьцеражы нас Божа, бо завядуць нас усіх у Маскву ды прададуць з усімі нашымі нацыянальнымі сьвятасьцямі. Арх. Васіль ніколі не бараніў маскоўскага крыжа, як гэта яму прыпісвае Хмара, але лічыўся толькі з апініяй нясьведамых людзей, для якіх хуткая перамена Крыжа магла-б выклікаць незразуменьне. Арх. Васіль заўсёды выказваўся за ранейшую падрыхтоўку й шырокае ўсьведамленьне вернікаў у патрэбе беларусізацыі нашай Праваслаўнай Царквы. Сталася аднак неспадзявана добра, што ініцыятыва й правядзеньне акцыі — гэта ёсьць устанаўленьне нашага нацыянальнага Крыжа на нова-збудаванай тымі-ж вернікамі Царкве ў Кліўлендзе вышла ад самых простых людзей, якія сваім грошам і працай збудавалі прыгожую сваю праваслаўную сьвятыню, аб якой марылі 10 год.

Мы думаем, што Хмара сваім новым выбрыкам ды прыпісваньнем Уладыку Васілю непраўдзівай, здуманай дзейнасьці, быццам Уладыка быў у вабароне маскоўскага крыжа ды выступаў супраць нашага нацыянальнага сьв. Ефрасіні Полацкай, Патронкі Беларусі — ёсьць зьнявагай і вялікай крыўдай, прычыненай так нашаму архіяпіскапу Васілю, як і ўсёй БАПЦ. Адсюль ясна: мэта Хмарава старая: не абарона БАПЦ, але яе скампраміітаваньне разам з Уладыкам — галавой БАПЦ ды яе духавенствам. То-ж Хмара выразна выдумоўвае злачынную ману аб нейкай «патайной групе БАПЦ зь сьвятаром Мацукевічам», быццам прыгатаўляючым «пераварот» у кіраўніцтве БАПЦ, а нас усіх праваслаўных Беларусаў абражае нейкім «ціскам» каталіцкай акцыі, ці тым, што трапілі «на вудачку зь Ефрасініным Крыжам». Хай Хмара з сваімі авантурыстымі не спадзяецца так жаданай і патрэбнай Маскве «рэакцыі вернікаў» у БАПЦ ці «пераваротаў», бо гэтага не дачакаецца.

**В. Вішнеўскі**

# Студэнцкія выданьні

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

ваць наш гістарычны назоў «Крывіч», дзеля тактычных меркаваньняў ды каб захаваць адзінства арганізацыі, мусілі часова адмовіцца ад гэтага назову.

Каб лепей зразумець прычыны перамены назову часапісу «Крывіцкі Сьветач», трэба прыпомніць сабе тагачасныя суадносіны сярод беларускай эміграцыі. Больш гарачыя прыхільнікі слова «Крывіч», «Крывіцкі», хацелі ня толькі яго папулярызаваць, але й замяніць ім поўнасьцю слова «Беларус», «беларускі». Пераважная колькасьць студэнцкае моладзі была супроць замены беларускага нацыянальнага назову ў **вабставінах эміграцыі й адарванасьці ад народу.** Акрамя таго, ня ўсе студэнты ўважалі, што слова «Крывіч», «Крывіцкі» будзе найлепшым і найбольш адпаведным нашым нацыянальным назовам. Слова «Літва» ёсьць таксама нашым навейшым нацыянальным назовам і як зь гістарычных, так і з практычна-палітычных меркаваньняў выдаецца больш адпаведным для замены нашага сяньняшняга назову.

Чамусьці таксама слова «Крывіч» заўсёды ўважалася як нейкі сымбаль ці прычына распадзелу сярод нашай эміграцыі, калі ў запраўднасьці прычыны былі зусім іншыя. Беларуская студэнцкая моладзь была моцна зьвязана з нацыянальна-дзейнай часткай беларускай эміграцыі, аднак не хацела ніякім чынам дапусьціць да разьдзелу ў сваіх радох.

У вапошнім нумары «Студэнцкага Клічу» было паведамлена аб выхадзе першага нумару газэты «Бацькаўшчына», а «Студэнцкі Кліч» ужо ня выйшаў... Студэнты зь Мюнхэну павыяжджалі, а БСЗ было разьвязанае.

**«За Дружбу»** — нумар Бюлетэню Беларуска-Украінскага Міжстудэнцкага Супрацоўніцтва (БУМКС) выйшаў у верасьні 1946 г.

У Камітэт Супрацоўніцтва ўваходзіла зь беларускага боку Беларускае Студ. Згуртаваньне ў Мюнхэне і з украінскага боку — Украінская Студэнцкая Грамада ў Мюнхэне. Бюлетэнь быў вынікам добрых дачыненьняў двух студэнцкіх арганізацыяў.

**«ВІЦІ»** — выдавец Беларускае Студэнцкае Таварыства ў ЗША супольна з Згуртаваньнем Беларускае Моладзі ў ЗША.

Часапіс пачаў выходзіць у чэрвені 1952 г. У лютым 1957 г. выйшаў апошні, 10-ы нумар часапісу. «ВІЦІ» былі запраўды сур'ёзным часапісам маладога пакаленьня. Тэматыка часапісу была разнаякая й цікавая. Часапіс здабыў прыхільнасьць ня толькі маладых чытачоў, але й усяго беларускага грамадзтва. З часапісам супрацоўнічала шэраг вядучых прадстаўнікоў нашага культурна-мастацкага жыцьця.

У часапісе быў зьмешчаны цыкль цікавых артыкулаў з галіны «Чысьціня мовы», ды «Як пішуцца вершы». Былі артыкулы пра нацыянальнае адраджэньне, шмат апавяданьняў на розныя тэмы, гістарычныя апавяданьні.

Асаблівасьцю «Віцяў» было тое, што ў іх было закранута шырэй пытаньне заходняй культуры ў артыкулах пра заходнюю літаратуру й музыку. Сумна, што сяньня студэнты ня выдаюць часапісу. Праўда, студэнты дапамагаюць выдаваць часапіс моладзі «БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ» (ужо выйшла 7-м нумароў), але гэта ня тое, што студэнцкі часапіс, бо зьмест ягоны дастасаваны для маладога пакаленьня.

**В. Е.**

# Сёе-тое

**(Заканчэньне зь 1-ай бач.)**

шчы простага беларускага народу ў 14-16-х стагодзьдзях,» — спасьцерагае Васільеў.

Мала каго сяньня дзівіць, хіба адно тых, што хочуць на гэтым прапагандны капітал зрабіць, што мінуўшчына вызначалася прымітывізмам ня толькі ў судох і пакараньнях, але наагул у жыцьці.

Адылі як больш мэтазгодным было-б, калі-б для параўнаньня Васільеў заглянуў у мінуўшчыну гаспадараньня сваіх «старэйшых братоў». Калі ў Вялікім Княстве Літоўскім людзі мелі пісанае права, што было адно для ўсіх і з аднаго боку служыла для караньня, а з другога — для абароны, у Маскоўшчыне таго ня было. Там кажны баярын і памешчык быў носьбітам права й бяспраўя. Аб руках не даводзіцца й гаварыць. За глупасьці галовы адсякалі. Прыгадайце адно, што сам Пятро Першы вырабляў.

Ну а цяпер, ясна, мадэрная Маскоўшчына больш вырафінаваная як у сваей крывадушнасьці да паняволеных, так і ў мерах пакараньняў. Калі ты, ня дай Божа, на партыйнага чырвонага (значыцца мадэрнага) шляхціца нападзеш, атрымаеш «пуцёўку »ў цялятнік, каб адбываць «срок в местах отдаленных.» Пасьля «срок» той мае ўласьцівасьць не скарачацца, а здаўжацца, аж пакуль ногі з працы й голаду выцягнеш. Вось дык і прагрэс! Ці-ж чырвоны шляхціц Васільеў аб гэтым ня ведае?

І знайшоўся-ж хто тыцкаць пальцам у «Літоўскі Статут»!

☆

На днях давялося нам гартаць юбілейны ілюстраваны альбом «Савецкая Беларусь». Гэта звыш трохсотбачынная вялікага фармату кніга ілюстрацыяў, пераважна здымак, выдадзеная да саракагодзьдзя ўстанаўленьня БССР. Зьмест наскрозь прапагандовы. З кажнай трэйцяй-чацьвертай бачыны чадзіць партрэтам «вялікага Ільліча». Раскулачанага **Сосо ўжо із сьвечкай у белы дзень ня знойдзеш.**

Важнае месца між іншай каламбуры займаюць паабчэпліваныя мэдалямі бальшавіцкія цівуны. Ёсьць маса з казённымі ўсьмешкамі і простага народу. Асноўнае месца, як зрэшты і ўва ўсім прапагандным бальшавіцкім барахле, прысьвечана развою індустрыі, калгаснай сельскай гаспадаркі ды й культуры, што, быццам баравікі ў дуброве пасьля дожджу, расьце ў клімаце «дабрадзейнай» бальшавіцкай сыстэмы.

Прадукуюць, будуюць, надойваюць, гадуюць па згары вызначаных графіках і працэнтах, ажно ёмісты альбом ад таго прадукцыйнага ўздыму трашчыць. І менш істотнае тое, што навет у здымках зробленых па заказу, не ўдалося бальшавіцкім прапагандыстым прыхаваць часта-густа адсталых мэтадаў прадукцыі ды й масавых фуфаек з прыгнечанымі вытлядамі іх носьбітаў. Нам ведама, што беларускі народ навет у сыстэме бальшавіцкай паншчыны прадукуе шмат больш, чымся для дабрабыту патрабуе. Пытаньне — хто гэтымі плёнамі прадукцыі карыстаецца? Хоць у альбоме няма паказаных чэргаў каля бальшавіцкіх крамаў, навет тыя прапагандовыя крамы з прымітыўным абслугоўваньнем выглядаюць, гаворачы сьціпла, пажабрацку.

І як у тым гімне сказана:

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасьцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, беларускі народ!

Беларускі народ, значыцца, на самым канцы пасьля Леніна й партыі. Ці-ж ня вымоўна?

Ёсьць і невялікі разьдзел, прысьвечаны міжнародным сувязям «незалежнай» і «сувэрэннай». Пад груповай здымкай маскоўскіх гаўляйтараў — прадстаўнікоў БССР пры закладзінах Задзіночаных Нацыяў у 1945-м годзе ў Сан Францыска чытаем наступнае: «Збылася мара народнага паэты Янкі Купалы — Беларусь заняла «свой пачэсны пасад між народамі».

І хто-ж гэтыя прадстаўнікі? А вось іхныя подпісы пад статутам ЗН з фатакопіі арыгіналу: Киселев, А. Жебран, В. Перцев, Байдаков, Ф. Шмыгов.

Гэта-ж, пэўна, маючы во такіх на думцы, пісаў некалі народны прарок Купала:

Цямніц і вісельняў асновы,
Слугі нагайкі і штыха,
Сумленьне, край прадаць гатовы
За бліск нагруднага значка.

☆

Нядаўна ў Таронце (Канада) адбыўся зьезд гэтак званай «рускай Сьвята-Уладзімерскай моладзі». Арганізаваны быў расейскімі цэрквамі ў Канадзе. У ліку моладзі былі й Беларусы з Монтрэалю.

Монтрэальская беларуская калёнія ня меншая, калі ня большая, чымся таронцкая, але ў Монтрэалі няма ніякага арганізаванага беларускага жыцьця. Разбрыліся па чужых. Некалі былі там спробы арганізацыі. Пэўны час існавала мастацкая група. Ініцыятыўныя адзінкі былі злажыліся й сабралі каля пяці тысяч даляраў на будову беларускае царквы. Была ахвярнасьць і адданасьць. Што-ж сталася?

Добразычлівыя ініцыятары лічылі мусіць, што ім льга адкінуць практыку іншых арганізаваных беларускіх асяродкаў і што ім удасца зрабіць тое, чаго нікому зь перадавых і палітычна й грамадзка заавансаваных Беларусаў на эміграцыі нідзе не ўдалося зрабіць: задзіночыць усіх. Заміж таго, каб пачынаць ад цьвёрдае асновы — хоць і малой, але духова сільнай і палітычна добра накіраванай групы, кінуліся на агульнае аб'яднаньне. Бязумоўна, у жмуркі доўга не нагулялі. Бязь яўна вызначанай царкоўнай, грамадзкай ці палітычнай асновы нічога ня збудуеш.

Так і сталася. Ініцыятары зьнеахвоціліся лішняй мітусьнёй, махнулі рукамі, а людзі разбрыліся й сяньня зьяўляюцца пагноем для чужых. Цяпер ня знойдзеш віноўных. Ды й прыгадваем гэта не таму, каб іх шукаць, а таму, каб іншыя на іхных памылках вучыліся, як ня трэба рабіць.

Ужо пазьней пасяліўся ў Монтрэалі гадунец зь некалі амаль што слаўнай беларускай лювэнскай групы. Былі ў некаторых надзеі, што мо што зробіць. Але й тут выйшаў пшык. Інжынер навет і ня пробаваў.

☆

«Бацькаўшчына» ў № 526 папярэджвае, што ўжо цяпер трэба брацца за працу, каб да 1963-га году — сотай гадавіны паўстаньня беларускага народу пад кіраўніцтвам Каліноўскага проці Маскоўшчыны стварыць салідную навуковую дакументальную працу аб выдатным беларускім рэвалюцыянеры й самым паўстаньні.

Добра й згода. Але ці ня лепш было-б запрапанаваць гэта канкрэтным і аўтарытэтным у гэтай справе людзям? Аб патрэбе лішнім будзе й гаварыць. Чым менш вазьні, тым больш будзе толку. Ведаючы, у якіх абставінах нашы навукоўцы на эміграцыі знаходзяцца й колькі часу патрабуе прапанаваная праца, можна непакоіцца тым, ці не запозна.

І сорам было-б, калі-б, ня гледзячы на вялікія цяжкасьці, прапанова гэта ня ўжыцьцявілася. Ці-ж не да рэчы прыгадаць тут цяжкасьці, што меў Каліноўскі й ягоныя паўстанцы? На вазе тут наш нацыянальны гонар.

**М. Козыр**

# Зь беларускага жыцьця

**НАШ УДЗЕЛ У ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫМ ДНІ Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ**

Беларусы Лёс Анджэлесу прынялі ўдзел у Інтэрнацыянальным Дні, які сёлета адбыўся 8-га й 9-га кастрычніка. Арганізатарам Інтэрнацыянальнага Інстытуту Дня быў мясцовы Інтэрнацыянальны Інстытут, які існуе й працуе ўжо 50 гадоў. Мэта Дня — пазнаёміць амэрыканскае грамадзтва з культурнымі здабыткамі іншых народаў сьвету. У праграму ўвайшлі міжнародная выстаўка, канцэрт і буфэт зь ежай розных нацыянальнасьцяў.



Фрагмэнт Беларускага стэнду

Беларусы ўдзельнічалі ў выстаўцы (побач з 14-ма іншымі нацыянальнасьцямі) і канцэрце (побач з 28-ма іншымі нацыянальнасьцямі). Беларуская выстаўка й канцэрт ладзіліся супольнымі сіламі Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Лёс Анджэлесе й групы Беларусаў, што да Аддзелу не належаць.

Беларуская выстаўка складалася з рукадзельных мастацкіх вырабаў, як дзяружкі, вышываныя беларускія народныя касьцюмы, ручнікі, тканыя паясы, краваты скрынкі з саломы здобленыя беларускімі арнамэнтамі, лялькі ў нацыянальнай вопратцы, вышываныя падушкі й іншыя рэчы. Над усімі экспанатамі вісела Пагоня, а з боку — карта Беларусі. Назоў кажнага экспанату быў пададзены ў ангельскай мове з паясьненьнямі, зь якой мясцовасьці Беларусі ён паходзіць. Пры выстаўцы былі ўсьцяж прысутныя дзяжурныя Беларусы, апранутыя ў нацыянальную вопратку, якія інфармавалі наведвальнікаў пра Беларусь і долю беларускага народу.

Пры гэтай нагодзе дзяжурныя распаўсюджвалі ў ангельскай мове брашуры, выдадзеную Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем, і Амэрыканскага Кангрэсу пра 42-ую гадавіну абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Гэтых брашураў было раздадзена вельмі шмат, што паказвае на ўзрастаючае зацікаўленьне Амэрыканцаў нашаю праблемаю.



Танцавальная група выконвае «Лявоніху»

На беларускую мастацкую частку злажыліся песьня «Палыночак», якую прыгожа выканала спадарыня Ніна Гудзім-Леўковіч пад акампаньямант сп-ні Ірэны Канановіч, і народныя танцы «Крыжачок» і «Лявоніха», удала выкананыя танцавальнаю групаю ў складзе: Ірэны Канановіч, Кастуся Вайцяхоўскага, Валі Стус, Ч. Н., Клер Кэнт, М. Канановіча, Каці Вініцкай і Віктара Клока. Сьпявачка й танцоры выступалі апранутыя ў беларускія нацыянальныя касьцюмы.

Арганізавала мастацкую частку сп-ня Фаня Канановіч, культурны рэфэрэнт Адзелу БАЗА, а сп-ня Каця Вініцкая вучыла танцаў. Сп- Кастусь Вайцяхоўскі, у ролі канфэрэнсье, інфармаваў прысутных пра Беларусь і беларускі народ ды аб'ясьняў праграму беларускіх выступленьняў. Беларуская група выступала чатыры разы: два разы ў сыботу й 2 разы ў нядзелю.

На гэтым месцы складаецца шчырая падзяка ўсім тым, што прынялі ўдзел у мастацкай частцы, што далі экспанаты на выстаўку, што працавалі ў арганізаваньні й рыхтаваньні выступленьняў ды ў зьбіраньні экспанатаў. На асаблівую падзяку заслугоўваюць спадарства Пануцэвічы, сп-ня В. Жызьнеўская-Рамук, сп-ва Кудасавы, сп-ня Л. Урыўская, сп. М. Сенька, сп-ня О. Запруднік і сп-ня К. Чэрняк, якія прыслалі нам экспанаты й такім чынам спрычыніліся да ўзбагачэньня нашае выстаўкі. Усім ім шчырае дзякуй!

Справаздача гэтая была-б няпоўнаю, калі-б не заценіць, што Беларусаў ня шмат у Лёс Анджэлесе, але яны патрапяць, для дабра агульнае справы, адкінуць на бок груповыя непаразуменьні, калі йдзе пра рэпрэзэнтацыю Беларусі, і, як дагэтуль, зь нядрэннымі вынікамі. Прыходзіцца гэта ня лёгка, але дасягненьні хай будуць асалодай.

**Я. А.**





Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.